● ДЗЕЛАВЫ МІНСК

# БІЗНЕС, ЯКІ ПРАЦУЕ НА АДРАДЖЭННЕ

**Як паведамлялася днямі ў інфармацыі агенцтва БелаПАН, апублікаванай на старонках «Добрага вечара», адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы, што складаецца з прадстаўнікоў бізнесу, фінансавых органаў, грамадскасці ды ўлад, каб абмеркаваць шляхі абароны беларускага рынку.**

**Сёння мы расказваем пра гэты сход больш падрабязна. Яго вёў вядомы ў рэспубліцы прадпрымальнік Вітаўт Лазар, адзін з кіраўнікоў Заходняй прамыслова-будаўнічай біржы.**

— ТОЕ, што робіцца з нашай нацыянальнай рыначнай прасторай, — адзначыў вядомы прадпрымальнік Вітаўт Лазар, — нельга назваць нармальнай з'явай: гэту прастору, карыстаючыся адсутнасцю пакета законаў аб рынку ў рэспубліцы, даволі смела заваёўваюць бізнесмены з іншых дзяржаў былога СССР. Асаблівым імпэтам тут вызначаюцца так званыя «асобы каўказскай нацыянальнасці». Я не бачу сярод прадпрымальнікаў, асабліва сярэдніх і буйных, беларусаў, тутэйшых грамадзян. Таму, пакуль не позна, трэба падумаць, як абараніць малады беларускі бізнес. Я асабіста за тое, каб стварыць акцыянернае таварыства «Адраджэнне Беларусі». Яно дасць штуршок развіццю нацыянальнага прадпрымальніцтва і адначасова падтрымае працэсы адраджэння і аднаўлення ў нашай рэспубліцы.

Мяркуючы па тым, хто быў на той момант у зале — а там знаходзіліся даўно знаёмыя аўтару гэтых радкоў прадстаўнікі банка «Дукат», фірмы «Дайнова», МП «Кліч», вытворча-камерцыйнай фірмы «Верас», Заходняй прамыслова-будаўнічай біржы, Мінгарсавета, сусветнага згуртавання беларусаў «Бацькаўшчына», Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, управы сойму БНФ «Адраджэньне», НДПБ, БСДГ, рэдакцый газет «Добры вечар» і «Дзеці і мы» — можна было думаць: людзі сюды сабраліся з самымі сур'ёзнымі намерамі.

Вядома, шмат з таго, пра што канкрэтна дамаўляліся ўдзельнікі пасяджэння, якія затым і склалі аргкамітэт будучага акцыянернага таварыства, з'яўляецца камерцыйнай тайнай, але, несумненна, захады, якія яны будуць рабіць, перш за ўсё ажывяць камерцыю, выданне беларускамоўнай літаратуры, выпуск тавараў шырокага ўжытку, прыкладнога нацыянальнага мастацтва, камерцыйныя сувязі з эміграцыяй.

Мінімальны кошт акцый, якія будуць выпускацца таварыствам, пры цяперашніх суадносінах цэн складзе не больш 1000 рублёў. Прадстаўнікі «Дуката» паабяцалі дапамагчы з фінансаваннем асобных праграм «Адраджэння Беларусі».

У гэта камерцыйнае супольніцтва будуць мець права ўступіць спачатку юрыдычныя асобы, а потым і фізічныя, практычна — кожны, хто пажадае стаць уладальнікам акцыі.

Каб паказаць характар размовы, прыводжу некалькі вытрымак з яе.

**АДАМ МАЛЬДЗІС (Міжнародная асацыяцыя беларусістаў):**

— Нам, людзям, якія змагаюцца за адраджэнне беларускасці ў культуры рэспублікі, трэба вучыцца бізнесу, прадпрымальніцтву. І тут Міжнародная асацыяцыя ўжо робіць пэўныя крокі. Ёсць, напрыклад, дамоўленасць з нашымі партнёрамі з Вялікабрытаніі аб вучобе групы маладых прадстаўнікоў Беларусі ў Лондане, якім замежныя сябры ўстановяць спецыяльныя стыпендыі. Галоўная ўмова для кандыдатаў на стажыроўку — веданне англійскай і беларускай мовы... У нас шмат ідэй, пачынаючы ад стварэння нацыянальных турыстычна-экскурсійных маршрутаў і канчаючы гандлем за межамі рэспублікі беларускай кніжкай...

**МІКОЛА КІЙКА (Мінгарсавет):**

— Ідэя цудоўная, і, я думаю, гарсавет і гарвыканкам яе падтрымаюць. Але трэба развіваць на справе больш асабістыя кантакты. Трэба дзейнічаць і менш гаварыць...

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА (НДПБ):**

— Спадзяюся, што стварэнне таварыства не на словах, а на справе, будзе падтрымліваць нацыянальна - дэмакратычны рух на Беларусі. Тым, хто змагаецца за адраджэнне роднай дзяржавы, патрэбна такая вось апора...

**АДАМ ПАЛЮХОВІЧ (фірма «Дайнова»):**

— Падтрымліваю гэту ідэю. Толькі трэба не адкладваючы заняцца канкрэтнымі справамі. А для гэтага найперш неабходна выпрацаваць праграму свaёй дзейнасці...

**ТАЦЦЯНА СОДАЛЬ (банк «Дукат»):**

— Таварыству неабходна займець юрыстаў, эканамістаў, экспертаў розных накірункаў, каб заняцца гэтай справай. Ну а мы, калі таварыства будзе афіцыйна афармлена, пойдзем яму насустрач: аператыўна адкрыем рахунак, выдзелім крэдыты...

НА ПАСЯДЖЭННІ быў абраны выконваючы абавязкі старшыні аргкамітэта ВІТАЎТ ЛАЗАР. Асобныя члены аргкамітэта вызначылі канкрэтныя накірункі сваёй дзейнасці. На гэтым тыдні адбудзецца наступнае пасяджэнне ініцыятараў стварэння «Адраджэння Беларусі».

Кантактныя тэлефоны таварыства: 77-40-27; 49-71-92; 36-66-40.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**член аргкамітэта акцыянернага таварыства «Адраджэнне Беларусі», спецыяльны карэспандэнт «ДВ».**

● САТЫРЫЧНЫМ ПЯРОМ

# ЦЭНЫ НА ПІВА СКАЧУЦЬ КРЫВА

ПРАБЛЕМА бутэлечнага піва ў двойчы стольным Мінску даўно вырашана: у пераважнай большасці гандлёвых піўкропак яно проста фасуецца ў прыватныя слоікі любога аб'ёму. Узнікненне гэтага геніяльнага і неверагодна зручнага для прадаўцоў тэхналагічнага прарыву самі півачэрпы тлумачаць то вострым дэфіцытам куфляў, то адсутнасцю вады для іх мыцця, а то і наогул не робяць ласкі, каб нешта растлумачыць. Аднак у даным выпадку размова не пра буйныя навацыі нашага нястомнага на выдумкі сервісу. Гэта тэма для асобнага захаплення з нагоды яго дасягненняў. Тым больш, што майстры названай сферы не з тых, што супакояцца на дасягнутым.

Такім чынам, яшчэ раз пра нашу любоў да піва. Прабачце, гэта значыць, пра цэны, Але не наогул пра іх, а ў даным выпадку пра цэны на гэта высакароднае пітво, якім, дарэчы сказаць, не грэбавалі нават нашы барадатыя «заснавальнікі».

Дык вось, у адрозненне ад іншых гаротных цэн, якія пасля адпушчэння іх быццам на волю зноў ускокнулі на ўказаны кімсьці шасток і замерлі там па загаду «смірна», піўныя іх калегі да гэтай пары чамусьці не могуць супакоіцца ў жаданай нерухомасці. Напрыклад, «рыначны» дэбют бутэлечнага «Жыгулёўскага» пачаўся з адзнакі ледзь ніжэй 4 рублёў за штуку з посудам. Трохі пазней гэты індэкс падскочыў ізноў на дзве з лішкам дрэваадзінкі. Праз нейкі час — яшчэ на 30 сотых гэтай самай адзінкі. Прадэманстраваўшы трывалую тэндэнцыю да нарошчвання цэнавай мускулатуры, «Жыгулёўскае» пасля гэтага горда пакінула магазінныя паліцы і надоўга некуды знікла. Рыхтуецца, відаць, перайсці ў больш высокую вагавую, гэта значыць цэнавую катэгорыю. Па паведамленнях жа прэсы, гандлёвыя базы пад самыя стрэхі запоўнены скрынямі з найстаражытнейшым пітвом.

Не менш цікавай, хаця ў многім і адменнай ад зашклатаранага «Жыгулёўскага», аказалася цэнавая прэм'ера ў піва «слоічнага». Яго «індэкс Джоуля» не ўзляцеў са старту па рэзка ўзыходзячай, тут аналагічная графічная нагадвае хутчэй лінію кардыяграмы перадінфарктнага сэрца. Шэсць рублёў, роўна восем, шэсць трыццаць, зноў шэсць і, нарэшце,—пяць семдзесят за адзін, так і хочацца напісаць, дэкалітр разліўнога піва. Прыкладна ў такой паслядоўнасці скакалі па цэнавых купінах пакутуючыя ад шматгадовай гіпадынаміі піўныя цэны пасля адпушчэння іх на «свабоду». Прытым, кошт і якасць напітку, што фасуецца на месцы, залежалі адзін ад аднаго не больш чым левітацыя ад гравітацыі. І калі да адсутнасці якой-небудзь сувязі паміж якасцю і коштам мы за многія гады адаптаваліся і не рэагуем, то нечаканая цэнавая няўстойлівасць ва ўмовах абсалютнага манапалізму азадачвае не менш, чым памянёныя вышэй феномены.

І ЎСЁ Ж пры жаданні неяк можна растлумачыць гэту дзіўную непаслядоўнасць пры перацягванні нітачак цэн-марыянетак. Напрыклад, заклінньваннем іржавай бюракратычнай машыны або працяглым устрыманнем ад алкаголю адказных за цэны работнікаў. Нарэшце, усё можна зваліць на падкопы чэчэнскай мафіі. Наогул, можна нешта прымальнае прыдумаць для нашага матэрыялістычнага розуму. Але як растлумачыць нашай атэістычнай свядомасцю раздваенне цаны ў рамках адной і той жа суперманаполіі? А менавіта такая падзея, не заўважаная чамусьці ні сусветнай, ні рэспубліканскай прэсай, адбывалася-такі ў нашым вядомым цяпер на ўвесь свет горадзе.

Памятаеце прыведзеныя крыху вышэй 5,70 і 6,00? Памятаеце. Дык вось, увесь мінулы тыдзень піўныя ларкі Мінска сінхронна прадавалі «рассыпное» «Жыгулёўскае» па гэтых зусім не сінхронных цэнах, прычым адметна, што часам пункты грамадскага харчавання знаходзіліся на адлегласці двух—трох прыпынкаў і запраўляліся з адной і той жа цыстэрны.

Каб не перагружаць чытача статыстыкай, прывядзём толькі некалькі адрасоў гэтай нябачнай яшчэ ў Беларусі супярэчнасці. Стадыён «Дынама», вуліца Казінца (раён мясакамбіната). Тут піва па 6 рублёў за літр. Універсам «Заходні» (вул. Прытыцкага), вуліца Брылеўская (раён аэрапорта) — 5 рублёў 70 капеек. І там, і там — «Жыгулёўскае». Прама як пры сапраўдным рынку.

НУ, ШТО? Можаце даць гэтаму тлумачэнне? Вось так. А яшчэ ж класік сацыялістычнага рэалізму гаварыў, што, калі зоркі запальваюць, значыць гэта некаму патрэбна.

Хто ж «запальвае» такія дзіўныя цэны ў Мінску? Вось у чым пытанне, а не ў тым — піць або не піць піва.

**Тадэвуш СКІБІНСКІ.**

● ЯК ЛАДЗІЦЬ БЕЛАРУСЬ

**Сёння ў традыцыйнай рубрыцы — лісты чытачоў. Хаця думкі, выказаныя ў іх, не бясспрэчныя, аднак аўтарам не адмовіш у тым, што яны шукаюць выйсце, не раўнадушныя да ўсяго, што адбываецца ў нашым нялёгкім жыцці.**

# ПАТРАБУЮЦЦА ЭКСПЕРТЫ

Сённяшні стан грамадства я вызначыў бы як неабальшавіцкі. Таму не дзіўна, што многія прапановы, ідэі, праекты, часам навукова не абгрунтаваныя, хаця ў іх і ёсць рацыянальнае зерне, могуць не дайсці да рэалізацыі. Дзейнасць партый, урада, людзей, прадпрымальніцтва, Вярхоўнага Савета па розных прычынах знаходзіцца ў стане стагнацыі. Зыходзячы з гэтай фрагментарнай адзнакі стану грамадства, я і прыйшоў да высновы, што неабходна экспертная нацыянальная група (па тыпу вядомай групы Яўлінскага).

Сягоння гэтым многія займаюцца, але ніхто не зможа сцвердзіць, што ёсць поўнае разуменне правільнага кірунку. Хоць бы такое пытанне: як правільна выкарыстаць нацыянальную ідэю ў рэчышчы нацыянальнага адраджэння? Ці што павінна з'яўляцца тварнай нацыянальнай валютай: бульба, лён, альбо інтэлект? І гэтак далей. Гаворка вось аб чым ідзе: калі ёсць выйсце, то яно адназначнае. Яго якраз і неабходна знайсці. Для гэтага патрэбны сумленныя спецыялісты: эканамісты, гісторыкі, геапалітыкі, філосафы, этнографы, праваэнаўцы, тыя, у каго ёсць нейкія напрацоўкі прынцыповага характару.

Добры прэсінг распрацаванага праекта можа зняць натуральныя хібы самавызначэння жыцця. Гэта адно. Другое — гэты нацыянальны праект павінен легчы ў аснову дзейнасці партый, а таксама ўрада ўсеагульнага даверу.

Для прапаноў па стварэнню і ўдзелу ў працы нацыянальнай экспертнай групы прашу званіць па тэлефонах: 49-71-04 з 12.30 да 13.15 (па рабочых днях), або 60-31-03 з 20 да 21 гадзіны.

**Іосіф ЖУРКЕВІЧ.**

# НАШИ БЕДЫ—ПРОИСКИ НОМЕНКЛАТУРЫ

ОДНА из основных причин снижения объемов производства во всех отраслях народного хозяйства, надвигающейся безработицы, возможного полного развала экономики и хаоса во всех сферах общественной жизни наряду с неспособностью взращенной КПСС номенклатуры хозяйствовать демократическими методами (отсюда ее тоска по тоталитарной системе и сильной руке) — нарушение юридическими лицами договорных обязательств. Разумеется, среди номенклатурных работников имеется немало таких, которые переживают за будущее своего народа. Однако не они определяют содержание принимаемых решений. Номенклатура действует прежде всего в собственных интересах, преследует главным образом свои собственные цели, которые все больше расходятся с интересами и целями основной массы населения. Чтобы убедиться в этом, достаточно внимательно ознакомиться с содержанием принимаемых законов Верховным Советом Республики Беларусь, который на 3/4 состоит из номенклатуры.

Именно в руках номенклатуры, а не демократов (как это она силится подать) находится сегодня законодательная, исполнительная и, на мой взгляд, судебная власть. Последнее весьма прискорбно. У демократии нет иного пути, кроме законного. Поэтому одно из основных требований демократических сил республики — строгое соблюдение законов. Милиция, ОМОН, прокуратура, суд должны служить закону, а не номенклатуре. К сожалению, некоторые работники правоохранительных органов то ли из-за солидарности с номенклатурой, то ли из-за страха перед ней в своих решениях не всегда строго придерживаются законности.

Республика находится в преддверии референдума по вопросу о роспуске нынешнего Верховного Совета. Думается, что необходимые 350 тыс. подписей будут собраны. Надо полагать, что осенью нам предстоят выборы в Верховный Совет Республики Беларусь. В этой связи представляется необходимым сказать следующее.

Номенклатура через свою челядь распространяет слух, что ее некем заменить. Однако тот, кто внимательно следит за политической жизнью в республике, может назвать сотни имен грамотных, компетентных, болеющих за судьбы государства людей. Большинство из них являются членами демократических движений и партий. Одной из таких партий является Объединенная Демократическая партия Беларуси (ОДПБ).

ОДПБ разделяет далеко не все положения, изложенные в подписном листе в поддержку предложений БНФ о проведении референдума. Так, мы против того, чтобы обвинять наших соседей в наших бедах. Но мы солидарны с БНФ в главном — нынешний Верховный Совет надо заменить новым, не номенклатурным. От нового Верховного Совета во многом будет зависеть, кто придет в структуры исполнительной и судебной власти, чьи интересы эта власть будет защищать. И, когда народ убедится, что власть защищает интересы всех, а не какой-то группы людей, он заработает так, как может. А работать на Беларуси не разучились. Вот только работать каждый человек в отдельности и народ Беларуси в целом хочет на себя.

**Изяслав МОРОЗОВ,**
**член Объединенной Демократической партии Беларуси.**

● МІНСК СЁННЯ

НА ПРАСПЕКЦЕ МАШЭРАВА. Фота Аляксея МАЦЮША.

● У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

# ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ

**РЫГА. Першая воінская часць — невялікае тэхнічнае падраздзяленне проціпаветранай абароны — выведзена з Латвійскай Рэспублікі. Ёй трэба будзе прайсці каля сямісот кіламетраў у раён Выбарга. Там падрыхтавана жыллё для сем'яў афіцэраў і прапаршчыкаў, частка якіх яшчэ раней паяздамі адправілася на новае месца службы.**

**У ваенным гарадку ў Болдэраі адбыліся провады. У іх прыняў удзел камандуючы Паўночна-Заходняй групай войск Расіі генерал-палкоўнік Валерый Міронаў, назначаны ўказам Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ўпаўнаважаным па часоваму знаходжанню і вываду войск СНД, у тым ліку і Балтфлота, з тэрыторыі Латвіі, Літвы і Эстоніі. У цырымоніі не прымалі ўдзел прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў і Міністэрства абароны Латвіі.**

**На праведзенай у ваенным гарадку прэс-канферэнцыі камандуючы Паўночна-Заходняй групай войск генерал-палкоўнік Валерый Міронаў сказаў, што для поўнага вываду войск Расіі з краін Балтыі запатрабуецца па крайняй меры пяць гадоў. Статус знаходжання воінскіх часцей у кожнай з незалежных дзяржаў распрацоўваецца на міжурадавых перагаворах.**

● ХРОНИКА ПЕРЕХОДНОГО ПЕРИОДА

**Богата наша история казусами. Припомните времена гражданской войны. Деньги тогда настолько обесценились, впору было стены оклеивать. И вот парадокс наших дней: обои так подорожали, что неровен час, объявится оригинал, отделавший свое жилье купюрами, допустим, рублевого достоинства. И не прогадает. Прибавьте к стоимости обоев еще и расчет по купонам, и экстравагантность такого потребителя будет вполне объяснимой...**

# БУМЕРАНГ УЖЕ ВОЗВРАЩАЕТСЯ

НЕ В ЛУЧШУЮ пору наведался я на обойную фабрику, головное предприятие ПО «Белбумпром»: в тот день сокращали управленческий аппарат объединения. Сокращали уже не впервые. Одна из причин: заводы и фабрики «Белбумпрома» стали более самостоятельными в решении хозяйственных вопросов. Не во всем себя оправдала прежняя структура. Уменьшаются отчисления на содержание управленцев. А одной головной фабрике не вытянуть громоздкий аппарат. Тут еще началось затоваривание готовой продукцией. Товар не пошел — не перечисляется прибыль на счета. Как вести дела-расчеты с партнерами и смежниками, как оплачивать труд рабочих и служащих? Поневоле взяли кредит под огромный процент. Но время идет, а с реализацией по-прежнему туго. Глядишь, всю прибыль банковский процент поглотит. Что дальше—банкротство и закрытие предприятия? И, признаться, подобные настроения руководство фабрики и объединения уже не скрывает. Вопрос только во времени: когда? А как же традиционный рыночный путь: ужесточение экономии на всем и вся, уменьшение издержек, снижение себестоимости, удешевление конечного продукта?

**— Поймите, есть разумный предел снижения себестоимости и уровня рентабельности, — говорит генеральный директор объединения П. Ф. Белогуров. —Сырье у нас привозное. Поставщики, в основном — российские, заломили умопомрачительные цены. Между нашими государствами есть межправительственное соглашение на поставку около 160 тысяч тонн целлюлозы. Но квоты даны Россией только на 80 процентов от этого количества. Практически заключено договоров лишь на 18 процентов. Отсюда значительное снижение объемов производства по объединению, уменьшается выпуск бумаги, картона, обоев. Головная фабрика еще держится, но и она вот-вот начнет захлебываться в этом море экономического хаоса и абсурда, административной инерции и политического популизма. Судите сами. Без всякой помощи в обеспечении ресурсами и сырьем Совмин спускает нам план и госзаказ на уровне прошлого года... Не спорю, продукция наша не всякому по карману, спрос на нее можно отложить в долгий ящик. До ремонтов ли нынче! Так нет же, обложили ее еще и купонной данью. И это помимо отказа в лицензиях на поставки, в Прибалтику, на Украину, в Молдову, где готовы платить любую цену. С одной стороны, понятно — кому нужны неотоваренные рубли, лучше придержать продукцию для бартера. Но рынок Беларуси теми же обоями уже насыщен, идет затоваривание складов и даже производственных помещений. А мы остаемся с носом и с грошами в кармане. В который раз экономику принесли на алтарь политических амбиций. Отрасль, прежде преуспевающая и исправно приносившая прибыль, хиреет на глазах и откровенно разваливается.**

КАК ЖЕ теперь выжить? Монополизм и диктат поставщиков буквально провоцируют высокие цены. Понятно, предоставленный сам себе, лишенный субсидий и дотаций, каждый норовит обезопаситься. В графу производственные расходы и издержки включают кто во что горазд. Раздутые штаты и бесхозяйственность, издержки по прерванным связям и поиску новых партнеров, персональные автомашины и весь мыслимый соцкультбыт. Проконтролировать все это некому. И потребителю деваться некуда. Вот вам и дикий Запад на восточный манер. Но бумеранг уже возвращается...

Такие регуляторы, как спрос и предложение, уже заявляют о себе. Мне перечислили около десятка предприятий-поставщиков, от услуг которых фабрика вынуждена отказаться: нашли другие варианты. Установлены прямые связи, заключены договоры, правда, на небольшие объемы. Снабженцы из командировок не вылезают. Мотаются по некогда единому экономическому пространству, даже за рубеж наведываются. Недавно продали партию продукции в Болгарию. Но вот куда перевести вырученную сумму? Москва по старой памяти может заморозить и присвоить, а на что потом краску закупать? Тамбовская годится только для высокой печати, и цена заломлена несусветная. Впрочем, не отстают и наши местные поставщики бумаги и некоторых компонентов обойного производства. Бобруйский гидролизный завод затребовал за свой спирт в сто раз больше. А лидский лакокрасочный завод за тонну эмульсии выставляет счет на тысячу долларов. И управы на них не найти...

Поэтому экономить приходится буквально на всем. Даже на торговой наценке и процентах, которые начисляются за хранение на базах. С этой целью рядом с проходной открыли свой магазин, где все обои продаются на треть дешевле. Хорошо бы еще государству поослабить тридцатипроцентый акцизный налог: во всем нужно чувствовать и знать меру.

**—Поправить положение можно, — убежден заместитель генерального директора по производству В. М. Рубанов, — должны заработать уже подписанные межправительственные соглашения и договоры. Многие из них так и остались на бумаге. Арбитражная служба устранилась, и апеллировать не к кому. Взаимоотношения как в джунглях: кто кого съест или урвет кусок пожирнее. Нестабильность растет и отпугивает потенциальных партнеров, в том числе и зарубежных. Например, под Витебском можно построить фабрику по производству красок. Комплект оборудования уже завезен. Дело за сырьем и технологиями, которыми располагают немецкие фирмы. Они бы и рады сотрудничать, но кто поручится за наш завтрашний день и за их инвестиции. А своя краска очень нужна! Тупиковая ситуация и с бартером. Раньше всем подавай холодильники, телевизоры и МАЗы. Сейчас цены на них вымахали, не всякий возьмет, да и правительство уже ничего не выделяет.**

Со старшим мастером В. Л. Шафранским прошлись по цехам. Все оборудование на фабрике хоть и импортное, но уже устаревшее. Валюты на запчасти не напасешься, пытаются ремонтировать сами. Места в обрез, грузовики едва разворачиваются. О переносе фабрики уже и речи нет. Потому строят комплекс капитальных очистных сооружений. Сырье подчас подают в цех с колес. Часть оборудования уже на приколе. При нынешней цене в 50—60 тысяч рублей за тонну отдельных сортов бумаги производство обоев становится убыточным.

Долгие годы обойная фабрика ходила в передовых. Однако вышедшая из-под контроля цепная реакция повышения цен, как снежный ком, докатилась и сюда.

...ПРОСВЕТ во всей этой экономической «чернухе» невольно обнаружил в одном из цехов, где расположилась новая немецкая обоепечатная машина фирмы «Фишер-Креке». Современная техника, компьютеры, дисплеи, специальное оборудование контроля качества. Все операции автоматизированы, вплоть до упаковки готовой продукции в ящики. А какие обои на ней выпускают! Лучше один раз увидеть. Не сомневаюсь, и мы когда-нибудь достигнем таких фантастических высот. При условии, если признаем и провозгласим суверенитет и приоритет экономики.

Анатолий БЕЛОУС.

● ФАКТ

# ДЕТСКОМУ САДУ—АМБАРНЫЙ ЗАМОК

**Втайне многие руководители промышленных и строительных организаций, имеющих свои дошкольные учреждения, лелеют такую мечту: ну, склад не склад, но уж собственную гостиницу, еще один офис... Еще проще — продать за большие деньги особняк, предназначенный детям, новоявленным толстосумам в лице МП, СП, различных акционерных обществ.**

**Но уже сегодня многие из них приступили к реализации подобных замыслов. Этим обеспокоены городские власти, в частности, городское управление образования. На обсуждение одного из ближайших исполкомов выносится вопрос о сохранении сети ведомственных дошкольных учреждений. Вот что по этому поводу говорит инспектор по дошкольным учреждениям Светлана Михайловна Воронина:**

**— В целом по городу из-за таких запланированных акций предприятий 20 дошкольных учреждений уже используются не по назначению либо под прикрытием ремонта готовятся под производственные или иные нужды. К примеру, МПО «Прогресс» закрыло детский сад № 281 на капитальный ремонт. За время его проведения, пока детей взяли под свое крыло другие — ведомственные и районовские — садики, 2/3 здания было продано МП «СЭТ». Это малое предприятие отобранные у детей помещения использует под складские.**

**И вот еще. Детский сад № 346 моторного завода после ремонта превратился в гостиницу. Порочная практика пришлась по вкусу и производственному объединению по изготовлению обуви «Луч». Детский садик объединения № 184 после ремонта используется как административное здание, садик № 130, в котором вот уже два года якобы идет ремонт, также используется для производственных нужд обувщиков.**

**«На подходе» еще несколько садиков. Хозяин, конечно, барин. Но понятно, что такая тенденция перевода детских садов под различные производственно-рыночные структуры чревата ужасными последствиями. Возрастет количество детей в действующих и без того переполненных садах. А это — излишняя нервозность персонала, повышенная заболеваемость детей, увеличение очередей на получение мест в детских яслях и садах. А в наше время сидеть молодым мамам без работы и без гроша в кармане — это ужасно. Хорошо бы нашим барам от промышленности быть погуманней. Ведь и у многих из них были маленькие дети и такие же проблемы —куда их пристроить! Забылось всё!..**

**Тамара МАРКИНА.**

СЁННЯ — ДЗЕНЬ АБВЯШЧЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР

# ЗА ВОЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ!

**Падзеі першай сусветнай вайны з'явіліся вызначальнымі ў палітычнай гісторыі Беларусі пачатку XX стагоддзя. Вайсковае змаганне паміж Германіяй і Расійскай імперыяй прынесла незлічоныя няшчасці на беларускую зямлю. Моцна пацярпела народная гаспадарка. Амаль паўтара мільёна насельніцтва было прымусова выгнана за межы Бацькаўшчыны ў глыбіню расійскіх губерняў.**

АДНАК, нягледзячы на разбуральныя гістарычныя падзеі, у асяроддзі беларускага народа працягвалі імкліва развівацца, выспяваць і набіраць сілу патэнцыяльна моцныя арганізацыйныя пачаткі да самазахавання і ўтварэння нацыянальнай дзяржавы. У гэты час новастворaныя партыі і згуртаванні разнастайных накірункаў, як, прыкладам, Беларуская сацыялістычная грамада, Беларуская партыя народных сацыялістаў, Хрысціянская дэмакратычная Злучнасць і іншыя, штораз болей паглыбляюць і распаўсюджваюць свае ўплывы на палітычную і нацыянальную свядомасць беларусаў. З 1902 года на чале грамадска-палітычнага руху ў краіне і за яе межамі знаходзіцца старэйшая палітычная партыя— Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), якая рэпрэзентуе найбольш масавую і радыкальную плынь беларускага змагання за незалежнасць.
гання за незалежнасць. Ідэал вольнай Бацькаўшчыны найбольш акрэсліваецца пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года.

Пытанне дзяржаўнасці Беларусі выносіцца на парадак дня ўжо 25 сакавіка 1917 года, калі ў Менску (будучай сталіцы) збіраецца з'езд беларускіх партый і арганізацый. На ім выбіраецца Беларускі нацыянальны камітэт і запачаткоўваецца працэс выбараў у краёвую раду. Трэба адзначыць, што ўжо тады выразна праявілася тыповая імперская ментальнасць расейцаў як у асобе бальшавіцкіх лідэраў (Фрунзе, Мяснікоў), так і Часовага расейскага ўрада А. Керанскага. Усе яны аднолькава варожа паставіліся да імкнення беларусаў адрадзіць сваю дзяржаўнасць. Усведамленне гэтага канчаткова пераканала беларускіх палітыкаў адкінуць «сентыментальны давер» да ідэі аўтаноміі ў складзе расейскай дэмакратычнай федэрацыі. Менавіта вялікадзяржаўныя планы суседзяў (не трэба забывацца і на Польшчу) стымулявалі далейшы ўздым грамадскай думкі, выводзячы яе на ўзровень абвяшчэння нацыянальнай незалежнасці Беларусі. З далёкай сібірскай высылкі вяртаюцца на радзіму многія беларускія змагары за свабоду. Сярод іх паэт Алесь Гарун, грамадскі і палітычны дзеяч Язэп Лёсік. Пад ягонай рэдакцыяй з 1917 года ў Менску пачынае выдавацца новая газета «Вольная Беларусь». Другая выдатная газета «Гоман» у Вільні з 1916 г. становіцца пераемніцай «Нашай нівы» ў справе згуртавання свядомых беларускіх сіл.

Беларускі палітычны рух захоплівае вайскоўцаў. Пад канец ліпеня прыхільнікі Беларускай сацыялістычнай грамады ў 12 арміі складалі 1000 чалавек, і каля 800 беларускіх матросаў і афіцэраў Балтыйскага флоту таксама арыентаваліся на грамаду. Да параўнання: на гэты час у Менскай суполцы РСДРП было ўсяго 40 чалавек.

Калі 26 кастрычніка ўтварыўся ВРК (Рэўком) на чале з Мяснiковым (Мяснікянам), як вышэйшы орган бальшавіцкай улады для ўсяго краю і фронту, у ім таксама, як і ў пазнейшых складах, не было беларусаў. Пытанне ўлады вырашалася з бальшавізаванай арміяй Заходняга фронту, камандаванне якой нетalерантна паставілася да беларускага руху. Адыёзна вядомы цяпер латышскі бальшавік Вільгельм Кнорын у 1925 годзе напіша так: «Заснавальніцай і творцай камуністычнай арганізацыі была старая бальшавіцкая гвардыя, закінутая на Беларусь вайной з Ленінграда, Масквы, Іванава», або «ад расейскага бальшавізму, ад РСДРП (бальшавікоў), а не ад нацыянальна - сацыялістычных партый ідзе гісторыя камунізму на Беларусі».

Пра тое, што беларусы не бралі ніякага ўдзелу ў тварэнні першых органаў бальшавіцкага рэжыму, пісаў у 1919 годзе Е. Канчар: «Савет народных камісараў утварыўся ў лістападзе 1917 года ў Менску на франтавым з'ездзе, але ні беларускія вайсковыя аддзелы, ні беларускія рады сялянскіх і работніцкіх дэпутатаў не бралі ўдзелу ў выбарах гэтых камісараў».

18 СНЕЖНЯ 1917 года для абрання нацыянальнага ўрада ў Менск з'ехаліся 1.872 дэпутаты ад Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай, Віленскай і Гародзенскай губерняў. Шырокае прадстаўніцтва ўсіх сацыяльных і этнічных груп насельніцтва сведчыла пра сапраўды дэмакратычны характар з'езду, названага Першым Усебеларускім кангрэсам. Прысутнічалі на ім 10 дэлегатаў-бальшавікоў з Петраграда, але вызначальнага ўплыву гэта, натуральна, не мела.

Кангрэс абвясціў неабходнасць стварэння дэмакратычнай парламенцкай рэспублікі з раздзяленнем уладаў на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, прыняўшы адпаведную рэзалюцыю. Бальшавіцкія намеры ўтварэння таталітарнай савецкай дзяржаўнасці пацярпелі крах. Таму ноччу з 30 на 31 снежня ўзброеная салдатня па загаду бальшавікоў прымусіла кангрэс перайсці на нелегальнае становішча. Падтрымка прыйшла ад мінскіх чыгуначнікаў, якія аддалі дэлегатам сваё дэпо для правядзення сходу і выставілі ахову. Рада кангрэсу прыняла на сябе паўнамоцтвы суверэннай улады, але змушана была працаваць у падполлі.

Такім чынам, беларусы ў рэальнасці змаглі пераканацца ў тым, якую цану мае дэмагагічная расейская «Декларация прав народов России» за подпісам Леніна.

Актывізацыя германскіх вайсковых дзеянняў і пераход у наступ прымусілі бальшавіцкае савецкае войска шпарка пакінуць Беларусь і ўцякаць на ўсход. Камісар Ландар, прызначаны перад гэтым старшынёй Саўнаркама Заходняй вобласці, паводле яго ўласных успамінаў, ледзь не трапіў у палон беларускай вайсковай групы: «У горадзе пачаўся рух «Беларусаў», якія рыхтавалі выступленне супраць нас. На вуліцах пачаліся дробныя сутычкі, чулася страляніна. Калі т. Пятроў, камендант Савету, ўвечары выводзіў мяне з Савету праз чорны ход, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне і таварышоў».

Уладу ў Менску і ягоных ваколіцах бярэ Рада кангрэсу, якая 21 лютага выдае першую Устаўную Грамату. Утвараецца Часовы ўрад — Народны Сакратарыят, а для абароны — першы беларускі полк і гарадская міліцыя.

У сакавіку германскія войскі пачынаюць прыбываць у Менск. Невялікія вайсковыя аддзелы ў горадзе тым часам узначаліў камандзір Менскага гарнізона беларускі палкоўнік Барыс Езавітаў. У надзвычай неспрыяльных умовах нямецкай акупацыі былі прыняты другая і трэцяя Устаўныя Граматы, дзе Рада БНР 25 сакавіка 1918 года абвясціла нашу Бацькаўшчыну незалежнай і вольнай дзяржавай — Беларускай Народнай Рэспублікай.

Палітычныя дзеячы БНР выдатна ўсведамлялі, што немцы прыйшлі як заваёўнікі, і тым не менш яны настойліва шукалі дыпламатычнага прызнання з боку Германіі і іншых вялікіх дзяржаў. Было спадзяванне, што Германія падтрымае новастворaную несавецкую рэспубліку, як аналагічна гэта адбылося ў Прыбалтыцы. Перавага аддавалася менавіта той дзяржаве, з боку якой не было пагрозы дэнацыяналізацыі для ўзыходзячай да дзяржаўнага жыцця Беларусі. Геапалітычныя абставіны, аднак, былі вельмі неспрыяльнымі. Звязаныя Берасцейскімі мірнымі ўмовамі ад 9 сакавіка 1918 года з бальшавіцкай Расеяй, немцы прыслалі такі адказ на беларускі мемарандум аб прызнанні: «Перашкодай для прызнання незалежнасці Беларусі з'яўляецца Берасцейская ўмова..., паводле якой Нямеччына абавязалася не падтрымліваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі б. Расеі».

ЛІСТАПАДАЎСКАЯ рэвалюцыя ў Германіі, аднак, парушыла ўсе дамоўленасці. Немцы неўзабаве вывелі свае войскі, каб заняцца ўнутранымі справамі. На Беларусь тады з двух бакоў ізноў рынулі бальшавікі і палякі. Пачалася знішчальная савецка-польская вайна. Урэшце наша краіна сталася падзеленай паміж савецкай Расеяй і Польшчай, што было замацавана ў трагічным Рыжскім пагадненні ад 1921 года. Бальшавіцкі рэжым сілай знішчыў нашу незалежнасць. Аднак слаўныя падзеі з гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі паклалі вызначальны пачатак утварэнню БССР і ўрэшце сталі пуцяводнай зоркай на шляху беларускага Адраджэння да поўнай дзяржаўнай незалежнасці ў Рэспубліцы Беларусь.

**Лявон ЛІПЕНЬ.**

**Натальля АРСЕНЬНЕВА**

# ЁН ПРЫЙДЗЕ!

**Ён прыйдзе, гэты дзень!**
**Ён ня прыйсьці ня можа!**
**Ён прыйдзе**
**й загудзе вясновы буралом,**
**пакрышыць, разьмяце,**
**раськідае, зьніштожыць**
**усё, што нам шляхі дахаты замяло!**
**Ці чуеце! Аб ім**
**шасьціць быльнёг аселіц,**
**пяюць вятры ў лазе**
**і звоніць крыгаў лёд.**
**Ахвяраю крыві,**
**— а Слова стане Целам**
**і ўжо ніколі больш ня ўстане Чорны Год.**
**Няхай бярэмя він**
**прыгнула нас, і крылы**
**апалі,**
**й хлеб чужы нясмачны і важкі,**
**няхай нас апавіў**
**тугой агорклы вырай, —**
**трывайма!**
**Ён ідзе —**
**Вялікі Сакавік!**
**Ідзе...**
**й пад ногі рунь**
**яму кладзецца, таюць**
**сьнягі, на паплавох зяленіцца трава...**
**Радзіма!**
**Беларусь!**
**Крывічына Сьвятая!**
**Багаславі нас жыць,**
**і веру захаваць!**

**Калі фае тэатральнай залы Дома афіцэраў яшчэ было разгароджана на адсекі, якія з'яўляліся рабочымі месцамі прадаўцоў кінарынку, я паспрабаваў прасачыць лёс беларускіх фільмаў. Аказалася, з некаторымі з іх здараюцца цікавыя і павучальныя гісторыі. Бывае, што ім проста не шанцуе. Часам па лагічных і заканамерных, а часам і па звышнатуральных прычынах.**

## ЗНОЎ ПРА БЕДНАГА «СЕМ'ЯНІНА».

ПРА ГІСТОРЫЮ з парушэннем аўтарскіх і рэжысёрскіх правоў у карціне «Сем'янін» напісаў не толькі «ДВ», але і «Аргументы и факты», «Советская Белоруссия», «Экран и сцена», «Известия». Шматлікія разбіральніцтвы зрабілі стужцы рэкламу. Цікава, як ацэньвае сітуацыю пасля ўсіх гэтых судоў і публікацый сама арганізацыя — прадавец фільма?

— Лёс карціны вельмі складаны, — гаворыць Міхаіл Верашчага, нам. дырэктара інавацыйнага цэнтра маладзёжнага жылога комплексу «Электрон» г. Новасібірска. — Аўтар сцэнарыя спачатку прад'яўляў іск дырэктару стужкі за тое, што ён яе не так зманціраваў. Быў суд, усё нібыта вырашылася. Зараз мы спрабуем прадаваць гэты фільм. Ёсць шмат прапаноў. Але пакуль людзі думаюць.

— Чаму карціну, як пазначана, вытворчасці «Беларусьфільма» прадстаўляе арганізацыя з Новасібірска?

— Мы фінансавалі здымкі. Наша асноўная функцыя — будаўніцтва жылля. Для гэтага мы хочам зарабляць грошы, у тым ліку і з продажу фільма.

Мой субяседнік запэўніў: судовы канфлікт — гэта ўнутраная справа вытворцаў карціны; пракатнае пасведчанне ў стужцы ў парадку.

Але вось якую перасцярогу даслаў Саюз кінематаграфістаў Беларусі кіраўнікам нашага ВА «Кінавідэапракат»: «...На фильм «Семьянин» аннулировано прокатное удостоверение, о чем нам сообщено заместителем Комитета кинематографии при правительстве Российской Федерации А. И. Проценко.

...Автор сценария В. Гоник и режиссер С. Никоненко подали в народный суд г. Минска заявление с просьбой отменить судебное решение народного суда Первомайского района г. Минска о мировом соглашении между ними, МЖК «Электрон» и бывшей студией «Импульс».

Заявление вызвано тем, что МЖК «Электрон», согласившись на суде на восстановление авторского варианта «Семьянина», обманул создателей картины, отказавшись после суда восстановить ее.

МЖК «Электрон» представляет на кинорынках урезанную, не аўторскую версію фільма «Семьянин».

Вось дык гісторыя: спрабуюць прадаць карціну па ануляванаму пракатнаму пасведчанню — фактычна, без дакументаў. Між іншым, па змесцу, «Сем'янін» — вясёлая камедыя-выкрыццё. Парушэнне аўтарскага права зноў апускае шлагбаум на яе шляху да мінскага гледача. Што ж тут смешнага?

## ІСТОТНАЕ ПАРУШЭННЕ ЗАКОНАЎ СПІРЫТЫЗМУ

У МІНУЛЫМ годзе ў Мінску адбылася ўрачыстая прэм'ера фільма студыі «Арцель Ф» «Мона Ліза». Пра карціну пісалі ахвотна і шмат. Да яе вартасцей адносілі тое, што стужка мае другі і трэці сэнс для людзей, дасведчаных у мастацтве і гісторыі, што ў ёй зашыфраваныя шматлікія цытаты і спасылкі на агульнакультурны кантэкст. Сярод недахопаў называліся кампазіцыйная непабудаванасць, бессэнсоўнае нагрувашчванне знешне значных сімвалаў. Але сёння дазвольце паведаміць пра іншае.

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр «Моны Лізы» М. Студнеў, які спецыяльна прыйшоў на кінарынак, каб паўплываць на пракатны лёс свайго дзецішча, лічыць, што ягоная стужка зведвае на сабе помсту тагасветных сіл. Вось яго змрочнае і хвалюючае апавяданне:

● РЭХА КІНАРЫНКУ

# НЕ ШАНЦУЕ? НЕ МУЧЦЕ ДУХАЎ!

— ...Дзіўныя рэчы пачаліся яшчэ падчас вытворчасці фільма. Мантажоры і аператары не прыпомняць гэткага казусу. Уся гукавая дарожка фільма была замагнічана. Прыйшлося перапісваць усё занава. Асаблівыя праблемы кожны раз узнікалі з другой часткай карціны, дзе ёсць сцэны выклікання духаў: не было выпадку, каб падчас праглядаў на гэтым месцы не спынялася плёнка.

Перад паказам на фестывалі «Кінатаўр» я падняўся ў апаратную, дзе звычайна заўсёды дамаўляюся з кінамеханікамі, каб яны акуратна пераключалі часткі. Бо практыка пераканала: у спешцы, калі хочацца хутчэй пайсці дамоў, тыя звычайна падмотваюць пачатак часткі і канец, пры гэтым губляецца тэкст. Рэжысёр пра гэта ведае і здымае ў такіх месцах пейзажы, розныя пустыя кадры.

Я не мог сабе гэтага дазволіць і проста даплачваў кінамеханікам, каб яны ўважліва пераключалі часткі.

І хаця часткі добра, па некалькі разоў — на бляшанцы і на плёнцы — падпісаны, усё роўна пасля першай умудрыліся даць трэцюю. Фільм «настроевы», яго і так зразумець няпроста. Пакуль я дабег да апаратнай, пакуль спынілі, адматалі — уражанне змазалася.

Дырэктар фестывалю арганізаваў яшчэ адзін прагляд — ужо ў іншай кіназале. Я не пазнаю кіно: мутнае, бруднае, не ў фокусе. Падымаюся да механіка — заплаціў жа грошы, 150 рублёў! Ён мне кажа: «Родны ты мой! Перад самым праглядам узарваліся абедзве праекцыйныя лямпы». А, паставіўшы, іх не адрэгулявалі, адсюль і нярэзкасць.

Потым ужо, калі я выйшаў на так званых празорцаў — у нас у рэспубліцы іх вельмі шмат, — мне сказалі, што ў фільме няправільна выклікалі духаў. Трэба з імі пагаварыць, задаць пытанні, а потым, абавязкова сказаўшы «Дзякуй, духі!», адпусціць. У нас жа герой проста выклікае дух Леніна, Марыны Цвятаевай, Сталіна — і ўсё. Яны так і сказалі: можаце не верыць, але, калі займаецеся чымсьці акультным, рабіце правільна. Калі духаў не адпусцілі, яны доўга пакутуюць. Больш таго, кожны раз, калі круціцца кінастужка, яны не могуць не выклікацца. Дух не можа не прыйсці. І таму ён перашкаджае нават распаўсюджванню тыражу карціны. Сапраўды, часам чалавек ужо ішоў падпісваць кантракт і раптам спахопліваўся, што нейкую дробязь, пячатку, напрыклад, забыў. Пасля гэтага чалавек знікаў немаведама куды.

Зараз я зрабіў дадатковы закадравы тэкст. Ён будзе дапісаны ў кожную будучую копію: «Дзякуй, дух, адпускаю цябе». Пасля гэтага ўсё будзе ў парадку.

Мікалай Студнеў упэўнены, што прычына былых няўдач знойдзена, і памылка выпраўляецца. На тэлебачанні ён зайшоў у апаратную і ўласным голасам, не саромеючыся, дапісаў запаветныя словы ў арыгінал. Так атрымалася першая якасная відэакопія «Моны Лізы», фільма складанага лёсу.

**Дзмітрый СТАНЮТА.**

**На здымку:** у інтэр'еры кінарынку — рэжысёр Мікалай СТУДНЕЎ, дырэктар кінарынку Аляксандр ЛІХАДЗІЕЎСКІ, крытыкі Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА і Валерый ТАЛСТЫХ.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).

# СТУДЫЯ ЧАКАЕ ХЛОПЧЫКАЎ

**ВОСЬ ужо другі месяц працуе пры Беларускім тэатры юнага гледача дзіцячая тэатральная студыя. У ёй займаецца каля дваццаці школьнікаў, якія прайшлі перад тым даволі сур'ёзны конкурс. Кіруе студыяй юных аматараў сцэны мастацкі кіраўнік тэатра М. Абрамаў.**

**— Нашы студыйцы, — гаворыць Мадэст Мадэставіч, — знаёмяцца з асновамі сцэнічнага майстэрства, вучацца спевам, танцу, руху, займаюцца сцэнаграфіяй, бутафорыяй, ёсць група рэцэнзентаў. А галоўнае — яны далучаюцца да нацыянальнай культуры, да нацыянальнага мастацтва. Заняткі па роднай мове і літаратуры, па далёкай і блізкай гісторыі Беларусі, наведванні музеяў, выстаў будуць спрыяць іх агульнаму развіццю, абуджэнню пачуцця гонару за свой народ, сваю Бацькаўшчыну. Выкладанне ў студыі даручана найбольш прафесійным акцёрам. Акрамя таго, запрашаем спецыялістаў з іншых тэатраў, з Інстытута культуры, Навукова-даследчага інстытута педагогікі, пісьменнікаў, навукоўцаў. А мара наша такая — каб дзіцячая студыя не пераўтварылася ў тэатр пры тэатры, а стала жыватворнай крынічкай, ад якой пацягнуліся б ручаінкі ў школы, у сем'і. І гэта будзе нашым укладам у святую справу адраджэння нацыянальнае культуры Беларусі.**

**Заняткі ў студыі праводзяцца тры разы на тыдзень: па панядзелках і серадах — увечары, па нядзелях — удзень. Наведаўшы іх, мы пераканаліся, што гэта сапраўды цікава, сапраўды карысна. Адно здзівіла — сярод юных студыйцаў пераважаюць дзяўчынкі.**

**— Так, — згаджаецца артыст У. Макараў, які з'яўляецца нечым накшталт завуча студыі, — гэта наша бяда. Хлопчыкаў у нас малавата. А з аднымі дзяўчынкамі спектакль паставіць цяжка.**

**Дык прыходзьце, хлопчыкі! Не пашкадуеце. Студыя чакае вас.**

**А. ВОЛЬСКІ.**

● ФОТОРЕПОРТАЖ

# НА «КОКТЕЙЛЕ» У МАШИ

**Согласитесь, что, к примеру, катание на роликовой доске имеет особую прелесть из-за того, что доска эта — и не «доска» вовсе, а — скейт. Притягательность иностранных словечек легко объяснима: они оттуда, где люди живут нормально, и нам хочется хотя бы на словах пожить той жизнью.**

Правда, у студентки института физкультуры Маши Рудницкой эти слова сопряжены с делом — она создает красавиц из женщин всех возрастов и комплекций, используя для этого мудреный «коктейль»: немного стретчинга, побольше джокинга, чуть-чуть бодибилдинга — получается шейпинг. А при расшифровке этих слов они становятся понятны и доступны каждому: шейпинг — программа коррекции женской фигуры, состоящая из растяжки, семенящего бега с расслаблением верхнего плечевого пояса, атлетизма и еще ряда специальных упражнений. Но в оздоровительной гимнастике, которой занимаются в спортзале по улице Варвашени, 17, присутствуют лишь некоторые элементы шейпинга, общие для всех. Главный же принцип занятий — индивидуальная программа для каждой женщины, зависящая от того, какой недостаток своей фигуры она хотела бы исправить. Здесь можно вырасти на несколько сантиметров, стать более гибкой, сбросить лишние килограммы или просто поднабраться силенок.

Кстати, разработанная в ИФК методика позволяет избавиться от лишнего веса гарантированно. Если, допустим, в некоторых кооперативах вас быстро освободят от излишков веса, то вы столь же быстро вернетесь в исходное состояние. В группе Рудницкой этого не случается: даже если после желанной сгонки веса вы решили бросить занятия, возвращение к полноте не происходит.

— Девушка, которая привела к нам всех своих подруг после того, как почувствовала эффект тренировок, — говорит Маша, — за три месяца похудела на девять килограммов. Решила остаться в весе 54 кг и эта форма очень легко держится.

Еще бы — ведь каждой женщине в группе составляются индивидуальные диеты, проводится обязательный для всех массаж... Конечно, необходимо личное желание, но, поучаствовав хотя бы в одном занятии, новички остаются надолго. Точнее, до той поры, пока не почувствуют зачарованных взглядов вечно спешащих мужчин, на этот раз сраженных столбняком от созерцания легкой походки и точеной фигуры.

**БелаПАН.**

**На снимках:** фрагменты занятий в группе шейпинга.

**Фото БелаПАН.**

● SOS

# «ВСЕ ПРОДАМ И КУПЛЮ АВТОМАТ...»

ТРУДНО противостоять ударам судьбы. Первый удар — известие о заражении СПИДом. Когда земля уходит из-под ног. Затем несчастья сыплются одно за другим.

Но, пожалуй, самым тяжелым ударом оказалось то, что их семейная тайна стала достоянием всего района. Отчуждение, брезгливость и даже враждебность окружающих... Где бы ни появились эти люди, везде они ощущали «повышенное» к себе внимание. Словно клейменные.

Лелеяли надежду, что если переедут в крупный город, то в городской суете затеряются, уйдут от любопытных глаз, расспросов и преследований. Появится возможность найти работу по силам и, может быть, спокойно, если можно назвать этим словом состояние больных, доживать отмеренный судьбой остаток жизни. Но нет, и здесь они встретили препятствие. Людская молва, как всегда, опередила события. По городу поползли слухи, в исполкоме и лечпрофучреждениях не успевали отвечать на тревожные звонки телефонов. Руководством области принимается решение: в город ВИЧ-инфицированных не допускать!

И начались различные уловки и ухищрения, письма, звонки, условия и переговоры с вышестоящими инстанциями. Семья доведена до крайнего отчаяния. Несчастный глава семейства просто кричал: «Я все продам, на последние деньги куплю автомат, расстреляю всех бюрократов, а последнюю пулю — себе».

То, что в Беларуси стала возможной дискриминация больных СПИДом — серьезный повод для тревоги. Если так поступают люди, наделенные властью, номенклатурные работники высшего эшелона, чего же тогда можно ожидать от простых смертных?..

Сейчас уже трудности с переселением и благоустройством этой семьи позади. Однако до сих пор остались неразрешенными многие их проблемы. Основная — невозможность зарабатывать на жизнь. И он, и она получают пенсию по инвалидности — состояние теперь уже такое, что постоянно ходить на работу трудно. Пенсия позволяет как-то пропитаться, свести концы с концами. Но человеку на жизнь этого мало. А тут еще необходим особый рацион, рассчитанный на повышение сопротивляемости организма.

Не раз Республиканский центр по профилактике и борьбе со СПИДом обращался к предприятиям республики с просьбой внести средства в рублях и в валюте на счет центра, что позволило бы приобрести лекарства, тест-системы и оказать материальную помощь больным СПИДом. Но ответа так и не последовало.

Специалисты предполагают, что для нашей республики в силу многих причин последствия эпидемии СПИДа могут быть угрожающими; и может сложиться так, что все мы будем бок о бок находиться с зараженными ВИЧ людьми. И тогда не спасут нас ни ненависть, ни пренебрежение к этим несчастным. А только знания — как себя обезопасить. И понимание.

Оно уже сегодня необходимо тем, кого постигла беда и кто заболел СПИДом. Не будьте к ним жестокими!

**Л. ЯКУБОВСКАЯ,**
**заведующая отделением Республиканского центра по профилактике и борьбе со СПИДом.**

● ВСЛЕД ЗА СОБЫТИЕМ

# «БАРСЕЛОНСКИЙ ВАРИАНТ» СНГ

**В Москве прошло очередное заседание спортивного совета СНГ, в котором принял участие президент Национального олимпийского комитета Республики Беларусь Владимир Рыженков. Вот что он рассказал корреспонденту БЕЛТА.**

Выступления спортсменов объединенной команды в соревнованиях по конькобежному, санному, горнолыжному спорту на Альбервильской олимпиаде признаны неудовлетворительными. Это означает, что главные тренеры по этим видам не выполнили контрактных обязательств. В то же время высокую оценку получили атлеты за успешные выступления в лыжных соревнованиях, фигурном катании, хоккейном турнире, шорт-треке, в фристайле.

Уже в принципе решено, что в барселонскую команду на Летних играх войдет около 700 человек, 170 из них — официальные лица, тренеры, врачи... Спортсмены СНГ выступят по полной программе Игр-92, за исключением состязаний по гребному слалому.

Нужно откровенно сказать, отметил президент, что в нынешней экономической ситуации мы не можем не обратить внимание на положение спортсменов. Уже в самое ближайшее время необходимо увеличить стипендии тем из них, кто задает тон на мировой арене. Соответственно не должны быть обижены и их тренеры.

Естественно, возник вопрос: завершится ли деятельность спортивного совета СНГ по окончании Летних игр-92? Сейчас трудно об этом говорить, отметил В. Рыженков. Пока только представители Молдовы и Армении сделали пометки в документах, что деятельность совета должна прекратиться после завершения Барселонской Олимпиады. Остальные же представители таких поправок не делали. Вопрос этот очень сложный. Например, олимпийский чемпион фигурист Виктор Петренко откровенно признался, что в родной Одессе ему практически негде тренироваться, он не может себе представить ситуацию, в которой ему бы отказали в ледовых аренах в Новогорске, в Санкт-Петербурге. В сложной ситуации и чемпион мира минчанин Игорь Железовский. В Беларуси просто нет катков. Так что содружество, говоря откровенно, неизбежно. Атлеты бывшего СССР должны иметь возможность тренироваться и соревноваться на лучших спортивных базах территории СНГ.

Мы должны самым внимательным образом относиться и к другим проблемам. К примеру, необходимо пойти навстречу волейболистам Латвии, которые входили в состав сборной бывшего СССР. Они, еще не получившие гражданства в своем государстве, имеют право выступать в Барселоне в составе объединенной команды. И на этот счет есть договоренность с Департаментом спорта Латвии. Это касается еще ряда спортсменов этой республики. Все будем рады, если на местах, отбросив амбиции, защитят интересы спортсменов, для которых участие в Олимпиаде — цель жизни.

Решено войти в МОК с предложением о расширении квоты с учетом сложившейся ситуации в СНГ. Но ситуация сложна, поскольку уже сейчас известно, что, например, на проживание в олимпийской деревне подано 15 500 заявок, хотя рассчитана она только на 15 000.

**Записал Вячеслав ДУТОВ.**

